

Дарагія чытачкі, партнёры, калегі, кліенты! Шчыра віншуем вас з Міжнародным жаночым днём! Няхай вам ва ўсім спрые ўдача!


# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

6 сакавіка 2020 года №10 (1297)

18+


## У жанчыны ў Будславе згарэў дом, а аднавяскоўцы дапамаглі сабраць грошы на новы

старонка 20

Аднавяскоўцы Кацярыны Хацяновіч, якія дапамаглі ёй сабраць грошы на новы дом. Злева направа: Аліна Рудзік, Соф'я Рагоўская, Данута Гапанёнак, Іван Пятроўскі і Людміла Ермаковіч. Фота Настассі УТКІНАЙ.

## У Беларусь прыйшоў каранавірус. Што рабіць?

старонка 8









ISSN 1991–7155



Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Сваякі і калегі навукоўца-матэматыка хочуць назваць школу яго імем

## Мясцовыя ўлады не лічаць гэта неабходным

**На вечары сустрэчы ў валожынскай школе №1 былы вучань Мяфодзій Радына звярнуўся да прысутных у сваім выступленні. Ён прапанаваў назваць школу імем свайго брата, доктара фізіка-матэматычных навук, члена-карэспандэнта Нацыянальнай Акадэміі навук Якава Радыны. Школу Якаў Валянцінавіч скончыў у 1964 годзе.**



Якаў Радына.

ВАЛОЖЫН

Па словах Мяфодзія Валянцінавіча, большасць прысутных прапанову падтрымалі. Пачалі збіраць подпісы за тое, каб родная школа навукоўцы насіла яго імя. На сёння сабралі больш за 50 подпісаў.

З выпускнікоў школы, аднакласнікаў, калег з БДУ, дзе працаваў навукоўца, стварылі ініцыятыўную групу.

Звярнуліся ў Валожынскі райвыканкам з заявай пра наданне імя Якава Радыны яго роднай школе №1. Сябры групы лічаць, што гэта паспрыяе папулярызацыі навукі і захаванню памяці ў маладога пакалення. Пазначылі, што фінансавыя выдаткі ініцыятыўная група возьме на сябе.

Падключыўся і Беларускі дзяржаўны універсітэт. Адсюль у Валожын накіравалі хадайніцтва аб наданні імя школе, падпісанае першым прарэктарам універсітэта **Дзмітрыем Мядзведзевым**.

Аднак у Валожынскім райвыканкаме ініцыятыву не падтрымалі. Мяфодзій Радына атрымаў афіцыйны адказ.

У ім паведамляюць, што за ўсе гады працы школы, ад 1958 года, – больш за тры тысячы выпускнікоў.

Сярод іх шмат вядомых. Ва ўстановах адукацыі раёна рэалізуюць праект «Знакамітыя выпускнікі». Школьнікі вывучаюць біяграфіі і бяруць з іх прыклад.

«Ва ўстанове адукацыі аддаюць даніну павагі воінам і партызанам Вялікай Айчыннай вайны» – пішуць у адказе.

Як доказ прыводзяць тое, што піянерская дружына школы названая ў гонар Васіля Шчарбіны – камандзіра разведвальна-дыверсійнага партызанскага атрада.

Атрад дзейнічаў на тэрыторыі Валожыншчыны, а Шчарбіна пахаваны на валожынскай плошчы.

«У 2018 годзе да нас звярталася грамадскае аб'яднанне «Ветэраны ваеннай разведкі» таксама з просьбай аб наданні сярэдняй школе №1 імя Героя Савецкага Саюза Васіля Шчарбіны, імя якога носіць вуліца, дружына і бюст якога ёсць каля школы» – адзначаюць у дакуменце.

Таксама звяртаюць увагу на тое, што на сайце школы праводзілі галасаванне. Згодна з ім, больш за 85 працэнтаў, а гэта 118 чалавек, не падтрымліваць ідэю даць школе імя навукоўцы.

Абапіраючыся на ўсе гэтыя акалічнасці, у райвыканкаме не лічаць неабходным надаваць школе імя аднаго з выпускнікоў.

У валожынскай школе №1 карэспандэнту патлумачылі, што рашэнне аб наданні імя сваёй установе яны не прымаюць. Гэта не кампетэнцыя школы – установы дзяржаўнай, а не прыватнай. Мы толькі галасаванне на сваім сайце правялі, адказалі тут.

Сябры ініцыятыўнай групы з такім рашэннем не згодныя.

Са сваёй заявай яны звярнуліся ў больш высокія інстанцыі.

– Чаму так: нам адразу адмовілі ў наданні імя, а аб'яднанню, што выступае за імя Шчарбіны, не адмаўляюць да гэтага часу? – не разумее брат Якава Радыны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

Якаў Валянцінавіч Радына нарадзіўся 1 снежня 1946 года ў вёсцы Брылькі на Валожыншчыне. У 1964 годзе скончыў з залатым медалём Валожынскую сярэднюю школу №1, у 1969 годзе – БДУ. Пасля вучобы тут адпрацаваў усё жыццё, прысвяціўшы сябе навуцы і педагагічнай дзейнасці. На працягу жыцця Якаў Валянцінавіч падтрымліваў сувязь з роднай школай і настаўнікамі. Памёр 9 снежня 2016 года, пахаваны на валожынскіх могілках. Якаў Радына – беларускі матэматык, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, загадчык кафедры функцыянальнага аналізу БДУ, ганаровы прафесар Брэсцкага і Гродзенскага ўніверсітэтаў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

## Якія ўстановы адукацыі рэгіёна маюць імёны?

### Будслаўская школа імя Паўліны Мядзёлкі

Педагог, актрыса, пісьменніца, заслужаны дзеяч культуры БССР Паўліна Мядзёлка нарадзілася ў Будславе. Доўгі час яна настаўнічала ў мясцовай школе. Паўліна Мядзёлка вядомая як першая выканаўца ролі Паўлінкі ў аднайменным спектаклі Купалы і як каханая паэта. Імя Паўліны Мядзёлкі школе надалі ў 1994 годзе.

### Сярэдняя школа №1 імя Уладзіміра Дубоўкі ў Мядзеле

Імя паэта, празаіка, перакладчыка, лаўрэата літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы Уладзіміра Дубоўкі школа носіць ад 1990 года. У школе ёсць мемарыяльная зала, прысвечаная мядзельскай школе Уладзімір Дубоўка вучыўся ў 1912-1914 гадах.

### Сярэдняя школа №1 імя Янкі Купалы ў Маладзечне

Імя народнага паэта школе надалі ў 1957 годзе. У 1960 годзе адкрылі пакой Янкі Купалы. Яго ўзначаліла педагог **Зінаіда Уласава**. Вучні двойчы сустракаліся з жонкай паэта **Уладзіславай Луцэвіч**.

Як вядома, Янка Купала быў цесна звязаны з Маладзечаншчынай.

Нарадзіўся ў Вязынцы, працаваў у Радашкавічах і Яхімоўшчыне.

### Жупранская школа імя Францішка Багушэвіча

Імя паэта, публіцыста Францішка Багушэвіча школа ў Жупранах на Ашмяншчыне носіць ад 1962 года. У 1970 у школе стварылі музей Багушэвіча. У Жупранах паэт пахаваны.

### Ільянская сярэдняя школа імя Адама Грымаца

Імя свайго выпускніка 1955 года школа носіць ад 2004 года. Адам Грымаць – заслужаны работнік адукацыі, прафесар педагогікі, аўтар навуковых прац, вучэбных дапаможнікаў, манаграфій.

Стаяў ля вытокаў сучаснай сістэмы работы вышэйшай школы.

Памёр у 2000 годзе. Пахаваны на ільянскіх могілках. У школьным народным музеі «Ільянскія далягляды» ёсць экспазіцыя, прысвечаная Адаму Грымацю. Школа падтрымлівае сувязь з БДПУ імя Максіма Танка, дзе працаваў прафесар Грымаць.

### Слабадская школа імя Адама Гурыновіча

Знаходзіцца на Мядзельшчыне. Імя паэта і фалькларыста, ураджэнца Мядзельшчыны носіць ад 1991 года.

### Сакаўшчынскі дзіцячы сад-сярэдняя школа імя Віктара Каваленкі

Гэта школа на Валожыншчыне названая ў гонар навукоўца, акадэміка, пісьменніка. У Сакаўшчыне ён нарадзіўся ў 1929 годзе. Вучыўся ў мясцовай школе, педвучылішчы на Гродзеншчыне, пэдінстытуце ў Мінску. Пасля заканчэння аспірантуры працаваў у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук навуковым супрацоўнікам. Лаўрэат дзяржпрэмій, доктар філалагічных навук. Вядомы і як празаік. Імя школе прысвоілі ў 2006 годзе.

### Старлыгскі дзіцячы сад-сярэдняя школа» імя Івана Аніські

На Мядзельшчыне ў аграгарадку Старлыгі ёсць школа, названая ў гонар выпускніка воіна-інтэрнацыяналіста Івана Аніські. Ён нарадзіўся ў 1968 годзе ў вёсцы Конціненты Мядзельскага раёна. Загінуў у красавіку 1987-га ў Афганістане.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Дырэктар сярэдняй школы №3 Мікалай Гіро і адзін са спонсараў Аляксандр Хоміч.

# У вілейскай школе №3 адкрылі STEM-цэнтр

## Ён каштуе больш за 20 тысяч рублёў

ВІЛЕЙКА

**28 лютага ў сярэдняй школе №3 вучні дэманстравалі робатаў, паказвалі фізічныя і хімічныя доследы і мультфільмы, якія самі малююць і здымаюць. Тут адчынілі STEM-цэнтр.**

У гонар адкрыцця цэнтра вучні і педагогі зладзілі STEM-вечарынку. На ёй другакласнікі разам з настаўніцай **Наталляй Андрыеўскай** расказалі пра занятки з канструктарам LEGO і паказалі, што ўмеюць рабіць з яго.

Запраграмаваны робат-шпіён рэагаваў на ўзмах рукі, вітаўся і ветліва запрашаў у трэцюю школу. Круціліся ветракі, працаваў цацачны пад'ёмны кран, а з цукерніцы, калі націснуць на кнопку, вывальваліся цукеркі.

– Я заўважыла, што дзеці любяць канструктар LEGO. Вырашылі адкрыць гурток. Пачыналі з маленькага – вывучэння і складання дэталяў. А калі кіраўніцтва школы купіла нам вялікі канструктар, тут пачалося сапраўднае жыццё. Цяпер мы ствараем робатаў і праграмуем іх, – расказала настаўніца.

Старэйшыя вучні на STEM-вечарынцы паказвалі хімічныя доследы, правяралі якасць пітной вады і расказвалі, як з пластыкавай бутэлькі, слоіка, кары вярбы і пяску самастойна зрабіць фільтр.

**Дар'я Жаўняровіч** і **Глеб Грынь** паказалі, якія мультфільмы, ролікі і выпускі школьных навін яны ствараюць самастойна. **Філіп Сак** падзяліўся, як з пластыліну, салёнага цеста і палімернай гліны стварае фігуркі казачных персанажаў.

– Для нас адкрыццё класа – важная падзея, бо IT – тая галіна, якая дынамічна развіваецца. Дзякуючы STEM-цэнтру нашы вучні змогуць акунуцца ў інжынерыю, фізіку, мастацтва. Каб у школе з'явіўся гэты клас, нам трэба было выйграць рэспубліканскі конкурс «Хачу вучыцца ў STEM-класе», што каштавала бяссонных начэй і часу. Але мы гэта зрабілі. Хацелася б, каб у цэнтры працавалі не толькі нашы вучні, але і дзеці з інваліднасцю, – сказаў на адкрыцці дырэктар школы **Мікалай Гіро**.

Па словах дырэктара, на цэнтр пайшло каля 25 тысяч рублёў. Закупілі ноўтбукі апошняга пакалення, базавыя і рэсурсныя наборы па робататэхніцы LEGO, тэлевізар, планшэты, 3D-прынтар.

На мерапрыемстве прысутнічалі прадстаўнікі ўпраўлення адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама, настаўнікі інфарматыкі з іншых гарадоў, спонсары – прадстаўнікі замежнага таварыства «Эксадзел», якое з'яўляецца рэзідэнтам Парка высокіх тэхналогій, і Асацыяцыі «Адукацыя для будучыні». Быў на ўрачыстасці і прадстаўнік Вілейскага хлебазавода – прадпрыемства, якое таксама падтрымала адкрыццё класа.

На Вілейшчыне шмат таленавітых дзяцей, таму адкрыццё STEM-цэнтра ў Вілейцы вельмі патрэбнае, падсумаваў начальнік упраўлення адукацыі спорту і турызму Вілейскага райвыканкама **Аляксандр Пуцэйка**.

На сёння ў Вілейцы працуюць два STEM-класы: у школе №3 і ў Цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі. Нядаўна адчынілі STEM-цэнтр у Маладзечанскай гімназіі №10.

STEM-цэнтры – класы, адчыненыя на базе ўстаноў адукацыі. Тут дзеці могуць бясплатна займацца па асноўных STEM-накірунках пад кіраўніцтвам спецыяльна падрыхтаваных педагогаў. Вучні змогуць паспрабаваць сябе ў праграмаванні, робататэхніцы, навучыцца 3D-мадэляванню. Абрэвіятура STEM расшыфроўваецца наступным чынам: S – science (навука), T – technologies (тэхналогіі), E – engineering (інжынерыя), M – mathematics (матэматыка).



Тэкст і фота – Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 27.02 | 5.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.2378 | **2.2311** |
| Еўра | 2.4334 | **2.4898** |
| Злоты, 10 | 5.6537 | **5.7901** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4137 | **3.3812** |
| Грыўня, 100 | 9.0822 | **8.9805** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **26.02** | **4.03** |
| Еўра | 2.3700/2.4500 | **2.4200/2.5100** |
| Долар ЗША | 2.1900/2.2800 | **2.1900/2.2700** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | **26.02** | **4.03** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,88 | **22,88** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,20 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,78 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,10 | **4,90** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,12 | **6,15** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,80 | **15,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,60 | **1,60** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,30 | **2,30** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 5,90 | **4,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,90 | **7,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 5,90 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 7,80 | **7,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **7,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,60** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Гранат, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,70** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,30** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Хурма, 1 кг | 5,70 | **–** |
| Чарнаслiў б/к, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,90 | **1,85** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Мужчыну пазбавілі бацькоўскіх правоў на дачку

ВІЛЕЙКА

Гэта быў першы сёлета выпадак пазбаўлення бацькоўскіх правоў на Вілейшчыне

У суд падала маці васьмігадовай дзяўчынкі. Яна хацела пазбавіць бацьку правоў на дзіця. Бо той, па яе словах, ніяк не ўдзельнічаў у выхаванні дачкі. Разам з сям'ёй мужчына не жыў працяглы час. Паказанні маці пацвердзілі сведкі – бабуля і дзядуля дзяўчынкі.

Суд прыняў рашэнне пазбавіць 31-гадовага мужчыну бацькоўскіх правоў.

Звычайна бацькі супрацьўляюцца ў судзе, калі іх пазбаўляюць правоў на дзіця. А гэты мужчына не супраціўляўся. Нават сведак не прывёў, – расказала карэспандэнту старшы памочнік пракурора Вілейскага раёна **Вераніка Занковіч**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Жанчына замовіла ляльку. А засталася без цацкі і грошай

МАЛАДЗЕЧНА

У міліцыю Маладзечна звярнулася 32-гадовая гараджанка. Яна распавяла, што на карт-рахунак невядомай жанчыны пераваляла 85 рублёў у якасці аплаты за тавар, але замоўленую ляльку так і не атрымала.

Праваахоўнікі высветлілі, што на гандлёвай пляцоўцы пацярпелая знайшла аб'яву аб продажы лялькі LOL за 85 рублёў. Пакупніца ў перапісцы з прадаўцом пагадзілася пералічыць патрэбную суму на карт-рахунак невядомай. Жанчына-прадавец абавязалася адправіць тавар па пошце.

Пасля таго, як маладзечанка пераваляла грошы, прадавец на працягу некалькіх дзён прыдумвала адгаворкі. Казала, нібыта трапіла ў бальніцу і абяцала хуткую дастаўку лялькі. Аднак тавар пакупніца так і не атрымала. Прадавец жа перастала выходзіць на сувязь і выдаліла з сеткі аб'яву. Падманутая жанчына звярнулася ў міліцыю.

У ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў міліцыянеры ўстанавілі, што прадавец была зарэгістраваная на інтэрнэт-пляцоўцы пад выдуманым імем. Рэквізіты банкаўскай карты, на якую пацярпелая пераваляла грошы, раней былі выкупленыя ў жыхаркі Віцебска праз месенджар Telegram.

Каб не стаць ахвярай махляроў у сетцы, Маладзечанскі РАУС рэкамендуе аплачваць пакупку пры атрыманні. Ні ў якім разе не пералічвайце грошы на электронныя кашалькі і незнаёмыя карт-рахункі.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**




# Сутыкнуліся два «Сітраэны». Загінула кіроўца

**26 лютага каля 10 гадзін раніцы на аўтадарозе Полацк-Глыбокае-мяжа Літоўскай Рэспублікі ў раёне вёскі Вялікая Страча сутыкнуліся два легкавыя «Сітраэны».**

АСТРАВЕЦ

Паводле папярэдняй інфармацыі, 24-гадовая жыхарка Віцебскай вобласці, кіруючы аўтамабілем «Сітраэн-Ксара Пікаса», на закругленні дарогі ўлева не справілася з кіраваннем. Яна выехала на паласу сустрэчнага руху і сутыкнулася з аўтамашынай «Сітраэн С5», якой кіраваў 48-гадовы жыхар Астраўца.

У выніку ДТЗ дзяўчына-кіроўца загінула на месцы здарэння. Кіроўца «Сітраэна С5» не пацярпеў, пасажырка дастаўленая ў бальніцу.

На месца аварыі выязджалі супрацоўнікі ДАІ, следча-аператыўная група, медработнікі.

**Паводле прэс-службы МУС.**

## Знік, не даехаўшы ў Мінск на працу

МАЛАДЗЕЧНА

### Маладзечанскі РАУС шукае 46-гадовага Фёдара Аляксандравіча Бурака.



Пра яго знікненне 24 лютага ў Маладзечанскі РАУС паведаміла 48-гадовая сужытніца. Жанчына распавяла, што мужчына 22 лютага каля 20:30 ад крамы «Еўраопт» па вуліцы Грамадоўскай накіраваўся ў бок аўтавакзала, каб паехаць у Мінск, дзе працуе кіроўцам у аўтобусным парку. Але праз некаторы час ён паведаміў жанчыне, што ў сталіцу паедзе са сваім знаёмым на аўтамабілі.

Аднак на працу Фёдар Бурак так і не прыбыў. Да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне невядомае, паведамляюць у Маладзечанскім РАУС.

**Прыкметы:** рост каля 197-198 сантыметраў, худы, карыя вочы, прамыя чорныя з сівізной валасы, стрыжка кароткая.

**Асаблівыя прыкметы:** касалапіць правай нагой.

**Быў апрануты:** чорную шапку з вушамі, чорную куртку, карычневыя джынсы, цёмна-карычневыя туфлі, чырвоную байку.

Міліцыя Маладзечна перакананаўча просіць грамадзян, якія ведаюць што-небудзь пра месцазнаходжанне зніклага, паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: **8 (033) 381-52-90, 8 (0176) 58-05-61, 8 (0176) 77-03-12, 8 (0176) 77-16-56** або ў бліжэйшы аддзел міліцыі на нумар **«102»**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Госць з Расіі прыехаў і скраў у краме дзве бутэлькі гарэлкі

ВІЛЕЙКА

19 лютага работнікі крамы «Капеечка» ў Вілейцы заўважылі, што два пакупнікі дзіўна сябе паводзяць. Калі з'явілася магчымасць, пракледзелі запіс з камеры відэаназірання. Аказалася, адзін з мужчын крадзе гарэлку. На відэа бачна, як фігурант бярэ бутэлькі з кошыка і хавае іх пад куртку.

Міліцыянеры ўстанавілі асобу падазраванага. 22 лютага яго затрымалі ў Вілейцы. Фігурант – 24-гадовы грамадзянін Расіі. У Вілейку прыехаў у госці сёлета ў студзені, расказаў карэспандэнту намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мяткоў**.

Раней на тэрыторыі Беларусі госця з Расіі да адказнасці не прыцягвалі. За дробны крадзеж ён атрымаў дзесяць сутак адміністрацыйнага арышту.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У вілейчука знайшлі наркотыкі і прылады для іх курэння

ВІЛЕЙКА

27 лютага міліцыя Вілейкі атрымала аператыўную інфармацыю пра тое, што ў 40-гадовага мясцовага жыхара могуць быць наркотыкі.

Супрацоўнікі Вілейскай і Маладзечанскай груп па барацьбе з наркотыкамі і АМАП затрымалі вілейчука дома.

– Па месцы жыхарства мужчыны знайшлі насенне. Верагодна, што гэта канопл. У гаспадарчай пабудове, што належыць фігуранту, знайшлі прылады для курэння, а таксама, па заключэнні эксперта, марыхуану, – расказаў карэспандэнту оперупаўнаважаны групы па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі **Вадзім Бурак**.

Фігуранта затрымалі. Узбудзілі крымінальную справу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Грузавік заехаў на эстакаду для легкавікоў і зламаў яе

Пра гэта карэспандэнту расказалі чытачы з Ілі.

– Эстакада для рамонту машын – усё, што засталося ад нашай запраўкі, – пішуць чытачы. – Прыстасаванне прыдатнае толькі для легкавых машын, а туды чамусьці заехаў грузавік. Вядома, эстакада не вытрымала, паламалася. Грузавік засеў. Яго даставалі пад'ёмным кранам. Ільянцы спадзяюцца на тое, што паламаную эстакаду адрамантуюць.

Нагадаем, што напрыканцы мінулага года мясцовыя жыхары выступалі супраць закрыцця АЗС у Ілі. Аднак запраўку зачынілі. У хуткім часе разабралі будынак. Заставалася толькі эстакада.

Як паведамілі карэспандэнту ў Вілейскім РАУС, машына, якая зламала эстакаду, не вілейская. Яна, верагодна, належыць адной з дзяржарганізацый Маладзечна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Эвакуіравалі дзяцей з усіх школ і садкоў

МАЛАДЗЕЧНА

У рамках рэспубліканскай акцыі «Дзень бяспекі. Увага ўсім!» 2 сакавіка супрацоўнікі Маладзечанскага гарраяддзела па надзвычайных сітуацыях правялі па ўсіх школах, садках і спецыяльных навучальных установах эвакуацыю.

Падчас эвакуацыі ў сярэдняй школе №4 Маладзечна прысутнічаў начальнік Маладзечанскага гарраяддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Ушацкі**. Ён адзначыў у сваім каментары, што выклік пажарных і эвакуацыю дзяцей правялі на высокім узроўні.

**Валянціна СОПАТ, ГРАНС Маладзечна.**

# Як падрыхтавацца стаць мамай

**Пра тое, як жанчыне настроіцца на роды, паводзіць сябе ў гэты адказны перыяд і наладжваць жыццё са з'яўленнем сына або дачкі, распавялі на кангрэсе МамаPRO 20 лютага.**

У папярэднім нумары мы расказалі пра мерапрыемства, вядзенне цяжарнасці і адказалі на некаторыя пытанні будучых бацькоў. Сёння мы працягнем тэму і засяродзім увагу на тым, як жанчыне як мага лягчэй нарадзіць.

Рэспубліканскі кангрэс МамаPRO – гэта сустрэча, на якой дасведчаныя дактары дзеляцца з будучымі мамамі і татамі ведамі і сакрэтамі, якія дапамогуць стаць абазнанымі бацькамі.

### Не бойцеся шпіталізацыі

У 30 тыдняў цяжарнасці акушэр-гінеколаг афармляе ліст непрацаздольнасці на 126 каляндарных дзён. У выпадку ўскладненых родаў, у тым ліку калі нараджаеце двое і больш дзяцей, лісток афармляюць на 140 дзён.

Не палохайцеся, калі доктар прапануе легчы на захаванне. Гэта не заўсёды значыць, што вам або дзіцяці нешта пагражае. Часта гэта неабходна для прафілактыкі. Асабліва калі ў папярэднія цяжарнасці былі складанасці з цяжарнасцю і родамі.

Шпіталізацыя паказаная цяжарным жанчынам, якія выношваюць двое і больш дзетак, тым, каму зрабілі працэдуру ЭКА, у каго першыя цяжарнасці скончыліся выкідышамі або заўчаснымі родамі, жанчынам з рубцом на матцы ад аперацыйнага ўмяшальніцтва.

Звычайна жанчын шпіталізуюць у самыя крытычныя перыяды цяжарнасці – 8-12 тыдняў, 18-22 тыдні, 28-32 тыдні.

### Як зразумець, што пачаліся роды

Першая прыкмета родаў – рэгулярнае скарачэнне мускулатуры маткі, ці схваткі. Пры гэтым жанчына можа адчуваць цягнучыя болі ўнізе жывата і паясніцы.

Спачатку схваткі слабыя, доўжацца некалькі секунд, прамежак паміж імі складае 10-12 хвілін. Часам схваткі адразу пачынаюцца праз 5-6 хвілін, але не вельмі моцныя. Паступова становяцца больш моцнымі, частымі, працяглымі і балючымі. У перыяд паміж схваткамі жывот расслаблены, трэба старацца адпачываць.

Звычайна ў першыя роды схваткі доўжацца 10-12 гадзін, у наступныя – 6-8. Калі схваткі праз 20-30 хвілін, яны яшчэ не родавыя, а прадвеснікі родаў.

Несапраўдныя схваткі нерэгулярныя, праходзяць або слабеюць пасля змянення становішча цела, не балючыя, без выдзяленняў. Сапраўдныя схваткі з часам становяцца рэгулярнымі, не праходзяць пасля змянення становішча цела, інтэнсіўнасць нарастае, яны становяцца балючымі, магчымыя крывяністыя выдзяленні.

Другая прыкмета родаў – выдзяленне слізістай пробкі. Яна можа адысці за два тыдні да родаў, а можа за 3-4 дні.

Трэці званочак пра роды звініць, калі адыходзяць воды. Каляплодныя абалонкі могуць разарвацца раптоўна, тады воды хлынуць патокам. Гэта можа здарыцца да таго, як пачне скарачацца матка. У гэты момант боль не адчуваецца. Калі воды адышлі да пачатку рытмічных схватак, варта адразу ж ехаць у радзільню.

### Калі трэба тэрмінова ехаць у радзільню

Існуе шэраг сітуацый, пры якіх трэба неадкладна ехаць у раддом:

– вельмі моцныя болі, матка паміж схваткамі не расслабляецца,

– перасталі адчуваць, як варушыцца дзіця,

– крывяністыя выдзяленні,

– моцны галаўны боль, высокі ціск, мушкі перад вачыма і страта рэзкасці зроку.

### Як падрыхтавацца да радзільні

1. Зрабіць поўную дэпіляцыю інтымнай зоны.
2. Коратка падстрыгчы пазногці на руках і зняць гель-лак.
3. Сабраць з сабой халат, шкарпэткі, бялізну. Абавязкова два станікі для кормячых мам, аднаразовыя трусікі, начную кашулю і тапкі, якія можна мыць.
4. Ручнікі, мыла, шампунь, расчоска, гель для душа, пракладкі з максімальнай усмоктвальнасцю, зубная паста і зубная шчотка.
5. Мабільны тэлефон з падзарадкай.
6. Аптэчка з неабходнымі вам лекамі.
7. Накладкі для тых, хто корміць грудзьмі.
8. Індывідуальны набор для родаў.
9. Дакументы: пашпарт, абменная карта са звесткамі ўсіх аналізаў, заключэннямі дактароў і рэкамендацыямі. Калі плануеце партнёрскія роды – неабходныя даведкі аб стане здароўя партнёра.

### Як паводзіць сябе падчас родаў

Парадзісе варта быць актыўнай у родах. Хадзіць, стаяць, выконваць спецыяльныя практыкаванні. Лепш быць у вертыкальным становішчы і трымаць ногі на шырыні плячэй.

Дапамагаюць дыхальныя тэхнікі. Якую з іх абраць, можа падказаць доктар.

Эфектыўна абязбольвае масаж. Яго можна рабіць самастойна або з дапамогай партнёра. Пры моцных схватках рэкамендуюць інтэнсіўна расціраць бакавыя аддзелы жывата, вобласць крыжа, унутраную паверхню сцёгнаў.

### Пасля родаў

Адразу пасля родаў аглядаюць мяккія родавыя шляхі, палавыя органы. Калі ёсць разрывы, іх зашываюць. Першыя дзве гадзіны парадзіха знаходзіцца ў радзільнай зале, каб медперсанал сачыў за яе станам. Пасля жанчыну пераводзяць у пасляродавае аддзяленне, дзе жанчына можа выспацца. Не пазней як праз 4-6 гадзін трэба пачаць падымацца, каб палепшыць кровазварот, нармалізаваць функцыі мачавога пузыра і кішэчніка.

Пасля звычайных родаў выпісваюць на пятыя суткі, пасля кесарава – на сёмыя.

Стан брушной сценкі паступова адновіцца да канца шостага тыдня пасля родаў. Калі будзе разыходжанне прамых мышцаў жывата, знайдзіце час для прэса. Калі ёсць складанасці з мочавывядзеннем, дапамогуць практыкаванні Кегеля.

Не саромейцеся ўдакладняць інфармацыю ў дактароў. Чым больш вы ведаеце, тым больш упэўнена будзеце адчуваць сябе ў такі адказны момант.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**




Акушэр-гінеколаг Дыяна Мардас – заснавальнік праекта МамаPRO.

# Эканомце з карткай «Матуля» – карткай для добрых мам

**Марыя Такарэвіч – будучая маладая мама з Маладзечна. Жанчына чакае першае дзіця, і ўжо вядома, што гэта будзе хлопчык. Марыю чакае чароўнае знаёмства з сынам, першы крок, першае слова і цуд мацярынства.**

– Асноўная картка заканчваецца. А тут дакладна будзе выгадна. Паказалі, што на адным дзіцячым вазку можна зэканоміць 90 рублёў. Гэта многа значыць!

Як і любую маму, яе чакаюць і новыя выдаткі. Калі ў сям'і з'яўляецца дзіця, хочацца даць яму самае лепшае. Таму магчымасць выгадна набываць дзіцячыя рэчы ацэняць усе бацькі.

Банк «Дабрабыт» ведае, што самае галоўнае для кожнага – каб усё было добра ў сям'і. Для тых, хто гадуе дзетак, банк падрыхтаваў спецыяльную праграму. Картка «Матуля» – тое, што дапамажа маме даць усё лепшае дзіцяці.

### Якія перавагі карткі

Картка – гэта прадукт асаблівай праграмы лаяльнасці. Яна дае магчымасць эканоміць на тым, што трэба маме і дзіцяці.

– Зніжкі да 30% у крамах партнёраў.

Сярод партнёраў праграмы – крамы дзіцячых тавараў і цацак, дзіцячыя забаўляльныя цэнтры, медыцынскія цэнтры і аптэкі. Медыцынская лабараторыя «Сінэва» прапануе зніжку ў 3%, онлайн-гіпермаркет 21vek.by – зніжку ў 5% на ўвесь асартымент па прамакоду MamaPRO, Hero Park – зніжку ў 25%.

– Манібэк за пакупкі.

За ўсе пакупкі вам вяртаецца на картку працэнт: 2% – на спецыялізаваныя тавары для дзяцей і мам, 0,5% – на астатнія тавары.

– Удзел у мерапрыемствах MamaPRO.

Гэта дазваляе атрымаць кансультацыі кваліфікаваных спецыялістаў па пытаннях планавання цяжарнасці, родаў і дзіцячага здароўя.

– Аплата пакета за месяц: бясплатна.

Таксама бясплатна вы атрымаеце папаўненне карткі праз АРІП.

### Як аформіць картку

Аформіць картку «Матуля» вы можаце ў любым аддзяленні банка «Дабрабыт». Пры сабе трэба мець пашпарт.

Стаць кліентам банка можна і анлайн у любы зручны час. Усталюйце апошнюю версію дадатку для мабільных тэлефонаў «Дабрабыт-анлайн» або перайдзіце ў інтэрнэт-банк з выкарыстаннем дадзеных Міжбанкаўскай сістэмы ідэнтыфікацыі.

### Што яшчэ ўваходзіць у пакет

Выпуск і бясплатнае абслугоўванне карткі Visa Gold Pay Wave тэрмінам дзеяння 3 гады;

Вяртанне сродкаў за безнаяўныя аперацыі (манібэк)*: пры аплаце спецыялізаваных тавараў для дзяцей і мам – 2%; пры аплаце астатніх тавараў і паслуг – 0,5%;

Удзел у сусветнай праграме зніжак «Свет прывілеяў Visa»;

Падключэнне і карыстанне паслугай Дабрабыт-анлайн (Інтэрнэт-Банк, Мабільны Банк);

Падключэнне і карыстанне сэрвісам Samsung Pay;

Магчымасць бескантактавых плацяжоў – Pay Wave;

Падключэнне паслугі SMS-апавяшчэнне і карыстанне пакетам 1 (абвестка пра прыходныя аперацыі) або 2 (абвестка пра расходныя аперацыі);

Падключэнне і здзяйсненне плацяжоў па тэхналогіі 3-D Secure;

Зняцце нацыянальнай і замежнай валюты ў прыладах любых банкаў у межах лімітаў;

Пераклад грашовых сродкаў паміж карткамі аднаго ** кліента (P2P) у Дабрабыт-анлайн;

Магчымасць папаўнення рахунка праз АРІП з дапамогай дыстанцыйных каналаў абслугоўвання іншых банкаў (інтэрнэт-банк, мабільны банк, банкаматы, інфакіёскі, і г.д.);

Здзяйсненне безнаяўных аперацый для аплаты тавараў (работ, паслуг), у тым ліку ў сетцы інтэрнэт, ды сістэме «Разлік» (АРІП);

Прагляд балансу рахунка ў прыладах Банка;

Устанаўленне/змяненне лімітаў па картцы;

Штомесячная выпіска па бягучым рахунку на электронны адрас;

Браніраванне гатэляў, авіябілетаў, арэнда аўтамабіляў;

Замена карткі: па заканчэнні тэрміну дзеяння карткі; на працягу ўсяго тэрміну дзеяння карткі ў сувязі са зменай прозвішча і/або імя лацінскім напісаннем, прывядзеннем карткі ў стан, непрыдатны для выкарыстання, стратай (крадзяжом) ПІН-кода.








# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета.

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі б/у Фіят-Тэмпра, 1993 г.в., 1,6 мона. Т. (8-044) 4703638.

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000): капот, фара, заднія ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

• Рухавік ВАЗ-2106. Т. (8-044) 4703638.

• Форд-Эскорт, 1997 г.в., на запчасткі. Т. (8-01771) 32137, (8-029) 6232305.

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3631161.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029)6412706,(8-029) 7646646.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, 9. Т. (8-029) 5702352 МТС.

• 1-пакаёвы драўляны дом у а.г. Залессе Смаргонскага раёна. 25 сотак зямлі. Плошча дома – 37 кв. м. На тэрыторыі знаходзяцца гаспадарчыя пабудовы, сад, агарод. Магчымы падвод газу. Побач вакзал і аўтобусны прыпынак. Т. (8-029) 1056204.

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмяняю на Мінск. Еўрарамонт. Т. (8-025) 5296374.*

• Дом №28 у в. Засценкі, 3 км ад г. Маладзечна ў бок Насілава, памер 5х8, драўляны. Т. МТС (8-029) 5551814, МТС (8-029) 5593683.

• Дом у аграгарадку Гальшаны па вуліцы Замкавай. Ёсць газ, водаправод, каналізацыя. Т. (8-029) 5846900.*

• Дом у Асіпавічах Вілейскага раёна каля возера. Т. (8-01771) 28717.

• Дом у в. Засценкі Вілейскага раёна Іжанскага с/с. Т. (8-033) 3513656.*

• Дом у Маладзечне, драўляны, 72 кв. м, вада, газ, электрычнасць, мясцовая каналізацыя, 11 сотак, 53 000 рублёў, торг магчымы. Т. (8-029) 7562992.*

• Дом у п. Нікольцы Мядзельскага раёна, 90 кв.м, 30 сотак, побач газ, 500 м ад в. Нарач, Мястра. Т. (8-029) 5546406.*

• Кватэра ў аграгарадку Ерхі Вілейскага раёна, агульная плошча 69 кв.м, з выгодамі, ацяпленне паравое (кацёл), 1 паверх, з рамонтам, уцепленая знешне. Т. МТС (8-029) 5094911 Людміла.

### ЗДАМ

• Кватэру на суткі. Т. (8-029) 6216628.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі з маніпулятарам. ІП Баброўка Д.А. УНП 692028167. Т. (8-044) 5521402.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Добраўпарадкаванне месцаў пахаванняў. ІП Высоцкі А.С. УНП 692245001 Т. (8-029) 7357499.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Наносім фота/надпіс на кубак/майку, 9 рублёў. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8. ІП Улан Р.В. УНП 690288442, Т. (8-01592) 44717.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. Пенсіянерам скідкі. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393 Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*



• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ЗДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЁЎ**. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Капалка аднарадная новая. Т. (8-044) 5542855.

• Т-16 з дакументамі. Т. (8-029) 2449142.

• Трактар Т-25, прычэп, культыватар, плуг. Т. (8-044) 4817147.*

**Бытавая тэхніка**

• Пральная машына Candy б/у, але як новая. Нядорага. Т. (8-033) 6407558.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Мэбля**

• Шафа кніжная «Давіль» «Маладзечнамэблі». Новая. Белая. Т. (8-029) 3854030.*

**Музінструмент**

• Піяніна, а/г Шылавічы. Т. (8-029) 2729557.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Домікі для пчол (вуллі) новыя. Т. (8-044) 5542855.

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты бройлерныя КОББ-500. Дастаўка Т. МТС (8-033) 6908397, А 1 (8-029) 6938397.*

• Казёл 10 месяцаў і козлік з козачкай 1,5 месяца. Помесь зааненскай і англа-нубійскай парод. Т. (8-029) 3597375 Таццяна.*

• Шчаняты ўсходнееўрапейскай аўчаркі, чыстакроўныя. Т. (8-029) 9106184.*

**Іншае**

• Баян, ровар, электрасамавар, чайны сервіз. Т. (8-029) 6949646.

• Дровы. Нядорага. Т. (8-029) 6106061.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Мантаж агароджаў. Бетонныя, дахавыя, дэмантажныя работы і інш. Т. (8-044) 7556706, (8-029) 8521268.


Каманда падчас спартыўнага свята.

# У садку правялі спартыўнае свята

СМАРГОНЬ

**Фізкультурныя святы ў нашым садку любяць і дарослыя, і дзеці. Таму ў апошнія дні лютага ў яслях-садку №13 зладзілі спартыўнае свята для дзяцей сярэдніх і старэйшых груп.**

Свята праводзілі для таго, каб паказаць дзецям, што заняткі спортам – гэта шлях да здароўя, а яшчэ магчымасць сабрацца дзецям і бацькам разам.

Спаборніцтвы прыдумалі такім чынам, каб кожны ўдзельнік змог праявіць сваю сілу і спрыт разам з Лешым і Бабкай Ёжкай. Праграма была даволі насычаная. Камандам прапанавалі займальныя, няпростыя конкурсы з бегам, скачкамі, дзе дашкольнікі змаглі праявіць свае спартыўныя навыкі.

Спартыўны задор і жаданне дамагчыся перамогі для сваёй каманды захоплівалі дзяцей настолькі, што яны не заўважалі нічога вакол. Стараліся прыйсці да фінішу першымі.

Спаборніцтвы сталі сапраўдным святам спорту, здароўя. Па выніках спаборніцтваў перамагло сяброўства. Удзельнікам уручылі граматы, медалі, падарункі. Але самым галоўным прызам для ўсіх сталі добры настрой, станоўчыя эмоцыі і бадзёрасць.

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ,**
**намеснік загадчыцы па асноўнай дзейнасці ясляў-сада №13 Смаргоні.**

## Што трэба ведаць пра дзярждапамогу сем'ям з дзецьмі

**Мінскае абласное ўпраўленне фонду сацыяльнай абароны насельніцтва інфармуе, што, згодна з нормамі артыкула 5 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай дапамозе сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей», ад 29.12.2012 №7-З, абавязак своечасова плаціць дапамогу сем'ям з дзецьмі ўскладзены на плацельшчыка абавязковых страхавых унёскаў (наймальніка).**

Арганізацыі, якія прызначаюць і выплачваюць дапамогу, абавязаныя выплаціць яе цалкам і своечасова. Дзяржаўную дапамогу такім сем'ям прызначаюць па месцы працы. Яе плацяць штомесяц у дні, устаноўленыя для выплаты заробку. Тэрміны і перыядычнасць выплаты заробку ўстанаўліваюцца заканадаўствам, калектыўным дагаворам, пагадненнем або працоўным дагаворам.

Напрыклад, калектыўным дагаворам вызначаныя два тэрміны выплаты: 23 чысла – аванс і 8 – канчатковы разлік. Улічваючы ўстаноўленыя тэрміны, штомесячная дзярждапамога сем'ям з дзецьмі павінна выплачвацца работнікам не пазней за 23 чысло штомесяц.

Калі сума налічанай дзяржаўнай дапамогі перавышае суму налічаных у бюджэт фонду плацяжоў, а таксама ў выпадку несвоечасовай выплаты заробку, плацельшчык можа звярнуцца за пералічэннем дзярждапамогі ў раённыя і гарадскія аддзелы абласнога ўпраўлення фонду па месцы пастаноўкі на ўлік. З сабой мець заяўку і пакет дакументаў у парадку, устаноўленым Інструкцыяй аб парадку выкарыстання сродкаў дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацабароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь на выплату пенсій і дапамогі, зацверджанай пастановай праўлення фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь ад 15.07.2013 №9.

Калі выплаціць дзярждапамогу па пэўных прычынах не могуць на працы, грошы прызначаюць і выплачваюць у іншай арганізацыі або ў органе па працы, занятасці і сацыяльнай абароне па месцы жыхарства (месцы знаходжання) атрымальніка. Гэта адбываецца па рашэнні камісіі абласнога ўпраўлення фонду пасля падачы заявы атрымальніка дапамогі і дакументаў, неабходных для прыняцця камісіяй рашэння вызначэння новага месца прызначэння і выплаты дзярждапамогі.

Па пытаннях дзярждапамогі сям'ям, якія маюць дзяцей, неабходна звяртацца ў Маладзечанскі раённы аддзел Мінскага абласнога ўпраўлення фонду па адрасе: **Маладзечна, вуліца Машэрава, 19.** Тэлефоны: **(8-0176) 74-63-17, 74-63-16.**

**Маладзечанскі раённы аддзел Мінскага абласнога ўпраўлення фонду сацабароны насельніцтва.**

На каранавірус у свеце хварэюць ужо 93 тысячы чалавек. Паправіліся 50 тысяч.

# У Беларусь прыйшоў каранавірус

**Міністэрства аховы здароўя 28 лютага паведаміла, што ў Беларусі зарэгістравалі першы выпадак каранавіруса.**

### Першыя выпадкі каранавіруса ў Беларусі

27 лютага ў Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры эпідэміялогіі і мікрабіялогіі правялі тэсты, адзін з якіх выявіў каранавірус 2019-nCoV у студэнта з Ірана. Грамадзянін Ірана прыбыў рэйсам з Баку ў Мінск 22 лютага.

Міністр аховы здароўя **Уладзімір Каранік** паведаміў, што студэнт вучыцца ў БНТУ. Універсітэт пераводзяць на індывідуальную праграму навучання.

Пацыент і асобы, з якімі ён кантактаваў, змешчаныя ў зачыненыя боксы ў Мінскай інфекцыйнай бальніцы. Малады чалавек адчувае сябе здавальняюча. Падазроны тэст выявілі ў бацькі дзяўчыны, з якой сустракаецца хлопец з Ірана, аналізы яшчэ пераправяраюць.

Таксама Міністэрства аховы здароўя 1 сакавіка паведаміла, што з'явіўся яшчэ адзін носьбіт каранавіруса ў Беларусі – жанчына з Віцебска, якая вярнулася з Італіі.

Беларуска і двое яе калег вярнуліся з Паўночнай Італіі. Гэта небяспечны па каранавірусе рэгіён, таму ўсім зрабілі неабходныя тэсты і аналізы. Тэст, які зрабілі адной з пацыентак, даў станоўчы вынік. Цяпер ёй праводзяць паглыбленую лабараторную дыягностыку.

4 сакавіка Міністэрства аховы здароўя пацвердзіла яшчэ тры выпадкі хваробы.

### Што кажуць студэнты БНТУ, дзе выявілі першы выпадак

«РГ» паразмаўляла са студэнтамі БНТУ з нашага рэгіёна – **Наталляй Кухаравай** з Астраўца і **Марэкам Дасюкевічам** з Маладзечна.

Студэнтка Наталля родам з Астраўца. Яна вучыцца ў БНТУ на факультэце маркетынгу, менеджменту, прадпрымальніцтва. Наталля паведаміла, што даведалася пра выпадак захворвання з агульных размоў з аднагрупнікамі.

Па словах Наталлі, у пятніцу, калі стала вядома пра тое, што знайшлі вірус, студэнтам амаль нічога не распавядалі і сказалі чакаць афіцыйнага паведамлення ад кіраўніцтва ўніверсітэта.

Дзяўчына кажа, што не ведае асабіста студэнта, які захварэў на каранавірус.

**Наталля пацвердзіла, што ў БНТУ пераходзяць на індывідуальнае навучанне, а ва ўніверсітэце аб'явілі каранцін да 15 сакавіка.**

Марэк вучыцца на энергетычным факультэце і таксама чакаў паведамленняў ад рэктара ўніверсітэта. Усю інфармацыю ён атрымаў з навін у інтэрнэце.

– Да 15 сакавіка нас перавялі на індывідуальнае навучанне. Гэта значыць, што ўвесь матэрыял мы павінны вучыць самі.

### А што адбываецца за мяжой?

**Карына Лявонцьева** з Маладзечна пастаянна жыве ў Італіі. Менавіта Італія стала галоўным эпіцэнтрам успышкі каранавіруса ў Еўропе, таму карэспандэнт «РГ» звязалася з дзяўчынай, каб высветліць, што адбываецца там.

Карына жыве ў Неапалі, гэта на поўдні Італіі. Большасць выпадкаў захворвання выявілі на поўначы краіны.

– У маім горадзе адзін выпадак захворвання, яшчэ два выявілі ў суседніх невялікіх гарадах, таму на лячэнні людзі знаходзяцца таксама ў Неапалі.

Карына кажа, што пасля выяўлення першага выпадку ў горадзе правялі дэзінфекцыю метро і школ, мясцовыя ўлады рэкамендавалі праводзіць дэзінфекцыю сваіх дамоў.

– Асаблівай панікі няма, шмат людзей у масках на вуліцы, але ўвогуле горад жыве ў звычайным рэжыме: грамадскія месцы працуюць, людзей менш не стала. Праўда, масак альбо няма ў продажы, альбо прапаноўваюць купіць за 20 еўра за штуку.

Карына ўспамінае, што калі ў Італіі рэзка павялічылася колькасць захворванняў, то з'явіўся дэфіцыт дэзінфікуючых сродкаў, але яго выраашылі. Дзяўчына кажа, што італьянскія ўлады даюць звычайныя рэкамендацыі пра ВРВІ і грыпе: пры сустрэчы не цалавацца і не паціскаць рукі, часцей мыць рукі.

### Чым каранавірус адрозніваецца ад ВРВІ?

Дырэктар Інстытута медыцынскай паразіталогіі, трапічных і трансмісіўных захворванняў Сечанаўскага ўніверсітэта ў Маскве **Аляксандр Лукашоў** расказаў ТАСС, што адрозніць сімптомы каранавіруса ад сімптомаў ВРВІ складана, іх галоўнае адрозненне – у тэмпературы цела. Пры ВРВІ яна высокая.

Паводле яго слоў, высокая тэмпература з'яўляецца адным з асноўных сімптомаў ВРВІ, але не каранавіруса. У астатнім гэтыя вірусы маюць падобную сімптаматыку, адзначыў Лукашоў.

**Таксама пры каранавірусе кашаль пераважна сухі. Мокры кашаль, як правіла, з'яўляецца сімптомам бранхіту, дадаў вірусолаг.**

На 4 сакавіка ў свеце зарэгістравалі 93 тысячы захворванняў. Памерлі 3 198 чалавек, а паправіліся 50 тысяч. Найбольшая колькасць выпадкаў каранавіруса зарэгістраваная ў Кітаі, Паўднёвай Карэі і Італіі.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Шматлікім публікацыям можа пазайздросціць цэнтральная прэса

## Чытач – пра «Рэгіянальную газету» з нагоды 25-годдзя

**Як падпісчык вашай газеты атрымаў каляндар. А ў ім 28 красавіка пазначанае, як дата выхаду першага нумара вашай газеты – 25-гадовы юбілей. Вельмі важная, значная дата ў жыцці рэгіёна.**



Анатоль Рогач.

У наш час, насычаны рознымі інфармацыйнымі сродкамі, ваша газета займае сваю нішу. Прачытаць «Рэгіянальную газету» стала звычкай, нормай для многіх.

Я асабіста з газетай пазнаёміўся не з першага выхаду, а недзе праз гады два. Выпадкова купіў нумар. У газеце зацікавіў матэрыял краязнаўца **Анатоля Рогача**. Цяпер я ўжо і не прыпомню назву артыкула і пра што ён быў.

**Газета спадабалася. Пачаў зрэдку купляць асобныя нумары. А праз некалькі год прыйшоў да высновы, што трэба аформіць падпіску. З тых гадоў газета са мной.**

Калі звяртацца да публікацый, то былі за гэтыя гады, што ўразілі, запомніліся. Перш за ўсё, трэба адзначыць ужо згаданага Анатоля Рогача, яго значны ўнёсак у краязнаўства краю. Запомніліся яго публікацыі з гісторыі Лоска, пра Капачы, Любань, пра раку Вілію і пра валокі цераз рэкі рэгіёна.

**Аўтар абапіраўся на матэрыял старажытных летапісаў, працаваў у архівах і музеях. На яго рахунку шмат значных краязнаўчых адкрыццяў. Шкада, што многае з задуманага засталося незавершаным.**

Гэта, мабыць, характэрна і для **Алены Саламевіч**. Бо яе публікацыі ад 15 лютага 2008 года «Вядомыя і невядомыя Гародзькі» была ўражлівая і запамінальная.

Паспеў свае слова ў краязнаўстве сказаць і **Аляксандр Харытон**. Распавёў пра жудасць і боль, якія ён спазнаў дзіцем, калі знішчалі яўрэяў у Красненскім гета. Мая маці ведала дзяцей з сям'і **Кацаў**, спаленых у таку.

Аляксандр Харытон знайшоў месца пахавання паўстанца Абрамовіча, які выжыў у час паразы паўстання Каліноўскага і пражыў больш за сто год. А загінулыя ў той час пахаваныя каля Плябані.

**Цяпер краязнаўчую справу ў Красным паспяхова працягвае былы супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея Сяргей Старыкевіч.**

Захапляльны і цікавы матэрыял быў апублікаваны **Дзмітрыем Крывашэем** і **Адамам Мальдзісам**. З даведніка «Літаратурныя мясціны», прысвечаныя Валожынскаму раёну. Унікальны матэрыял «Армія Краёва ў Налібоцкай пушчы і яе наваколлі» ў нумарах 19, 20 і 21 за 2017 год апублікаваў **Уладзімір Пучкоў**.

А чаго толькі вартая публікацыя **Аляксандра Плавінскага** ў нумарах 23, 24 за 2016 год «Праведнік свету Мікалай Кісялёў» – пра вывад і выратаванне з акупаванай тэрыторыі каля двухсот яўрэяў падчас Другой сусветнай вайны. Многім з гэтых публікацый можа пазайздросціць і цэнтральная прэса. А ўважлівы сцэнарыст абавязкова знайшоў бы матэрыял, каб напісаць сцэнарыі для стварэння фільмаў.

**Пералічаная толькі невялікая частка з тых публікацый, што спадабаліся мне. У кожным нумары можна знайсці нешта цікавае.**

Для сябе я выдзеліў рубрыку «Куфэрак». Цікавіць і каляндар дат, які ў розныя гады вялі **Марына Сліж, Марыя Бераснева** і цяпер **Мікола Гайдук**.

Для маладзейшых тут ёсць рубрыкі пра спорт і моладзевую актыўнасць.

**Многія, пэўна, ужо звярнулі ўвагу на крыжаванку ў канцы газеты. Адгадаўшы словы, вы адчуеце багацце і прыгажосць, смак і асалоду роднай мовы.**

Год з дзесяць таму я і сам зрабіў спробу надрукаваць нешта ў «Рэгіянальнай газеце». І я ўдзячны лёсу і газеце, што трохі з задуманага ўсё ж удалося. Па-першае, за публікацыю сямейнай легенды – пра майго дзядулю **Канстанціна Шумскага**, які сто год таму пабываў на заробках у Амерыцы і вярнуўся ў сваю маленькую, закінутую сярод сніткавага лесу вёсачку Сурынты.

Рад за публікацыю пра настаўнікаў і аднакласнікаў Дубраўскай СШ, пра хутары наваколля і прыродныя аб'екты нашай мясцовасці – гару Заходняя Бярэзіна і рачулку Заходняя Бярэзіна, што бярэ тут свой пачатак.

Дзякуй за дапамогу у публікацыі **Зоі Хруцкай**, **Марыі Бераснева**, **Аксане Ярашонак**, **Аляксандру Манцэвічу**. Прабачце, каго не назваў.

**Кожная публікацыя – гэта калектыўная праца ўсёй рэдакцыі і аўтара.**



Алена Саламевіч.



Аляксандр Харытон.

Яшчэ раз віншую з такой важкай падзеяй – 25-годдзем газеты. Далейшых поспехаў калектыву.

**Іосіф ПАЎКАЛАС,**
**вёска Навасёлкі-1 Маладзечанскага раёна.**
**Фота з архіва «Рэгіянальнай газеты».**

# У жанчыны ў Будславе згарэў дом, а аднавяскоўцы дапамаглі сабраць грошы на новы

**8 студзеня ў Будславе адбыўся пажар – згарэў дом 90-гадовай пенсіянеркі Крысціны Хацяновіч. Вяскоўцы неўзабаве арганізавалі збор сродкаў на набыццё ёй новага дома.**



Фота Станіслава ЯНАВІЧА.

Выратавальнікі прыехалі хутка, але дом быў ужо моцна пашкоджаны.

«Рэгіянальная газета» сустрэлася з жыхарамі Будслава і сваякамі Крысціны, каб яны распавялі гісторыю здарэння і дабрачыннай акцыі.

### Жанчыну выратавалі аднавяскоўцы

Жанчыну выратавалі відавочцы здарэння **Алег Бізуновіч** і **Пётр Ласіца**. Яны ўбачылі, што гарыць дом жанчыны, і самі дасталі яе з полымя яшчэ да прыбыцця пажарных разлікаў.

– Убачыў дым з-пад даху, набраў экстранную службу. Потым пагледзеў, ці ёсць у доме людзі, але зайсці ўжо было немагчыма. Падаспеў яшчэ адзін таварыш, мы спрабавалі выбіць вокны. Потым убачыў бабулю, якая абаперлася на падаконнік, мы яе і выцягнулі, – распавядаў Ласіца прадстаўнікам МНС.

Пляменнік Кацярыны **Станіслаў Янавіч Бабкевіч** успамінае, што быў на працы, калі загарэўся дом цёткі. Ён убачыў дым у баку дома сваячкі і як панесліся пажарныя машыны.

– Я працаваў, а Пётр Ласіца і Алег Бізуновіч проста праходзілі міма. Хлопцаў варта было б узнагародзіць медалём. Без іх, пэўна, адбылася б трагедыя.

Выратавальнікі прыбылі хутка і патушылі полымя, але дом моцна пашкодзіў пажар. Жыць у ім было ўжо немагчыма.

### «Дом згарэў, маці жывая»

У Крысціны двое дзяцей: дачка **Марына** жыве ў Мінску, а сын **Віктар** у Старадарожскім раёне. Пасля пажару жанчыну да сябе забраў сын. Да лета 90-гадовая цётка Станіслава будзе жыць там.

– У яе ёсць там свой куточак, але спадзяюся, што ўлетку цётка будзе жыць у новым доме ў Будславе, – расказаў Станіслаў.

Марына ўспамінала, што даведалася пра здарэнне пасля званка Станіслава.

– Стась пачаў з наватных пытанняў: як я сябе адчуваю, ці магу прыехаць, ці працуе машына. Зразумела, што нешта здарылася. І потым ён кажа: «Дом згарэў, маці жывая».

Марына з мужам адразу выехалі ў Будслаў. Жанчына вырасла ў доме, які згарэў. Яна распавяла, што неаднаразова яго рамантавалі. Летам зрабілі печ, якая ў выніку і стала прычынай пажару.

Станіслаў распавёў, што кожны год адзначае Каляды разам з братам Паўлам і цёткай Крысцінай у яе доме – гэта сямейная традыцыя. У гэты раз забылі сфатаграфавацца: не думалі, што можа штосьці адбыцца.

Дачка жанчыны кажа, што Кацярына не была знямоглай бабулькай і хацела жыць не з дзецьмі ў Мінску, а ў Будславе.

– Ад сацыяльнай службы адмаўлялася, не хацела, каб да яе нехта прыходзіў чужы. Яна вельмі актыўная нават у 90 гадоў. Можа, і дроў насекчы, і ў лес па грыбы схадзіць. Але вось здарылася бяда.

### Сабралі дзве тысячы рублёў на новы дом

Неўзабаве пасля здарэння **Тэрэса Вайнілка** прапанавала арганізаваць збор сродкаў па вуліцах аграгарадка, каб кожны змог далучыцца да дабрачыннай акцыі. На імшы ксёндз Дзмітры заклікаў прыхаджан ахвяраваць грошы на набыццё новага жылля для жанчыны. Кіраваў аперацыяй па збору **Іван Пятроўскі**, які потым перадаў грошы дачцэ пагарэльцы.

Ён жа арганізаваў людзей, разбіў Будслаў на шэсць зон, у якіх людзі збіралі грошы ў аднавяскоўцаў:

> **– Практычна ўсе прынялі ўдзел у зборы сродкаў. Абышлі двароў 150. Ніхто не адмаўляўся, хто мог, той і ахвяраваў грошы.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Новы дом, у якім хутка будзе жыць Крысціна Хацяновіч.

**Аліна Рудзік, Данута Гапанёнак, Соф'я Рагоўская, Людміла Ермаковіч** таксама ўдзельнічалі ў зборы сродкаў і актыўна дапамагалі Івану Пятроўскаму ў арганізацыі гэтай працы.

– Дапамагалі, таму што так трэба. А што, калі ты апынешся ў такой сітуацыі? Ды і мы ведаем Крысціну, разам сядзім на імшы, – падзялілася Данута.

Марына ўдзячная жыхарам Будслава, якія дапамаглі маці з жыллём. Дабрачынны збор пакрыў частку новага дома, палову ўзялі са страхоўкі за згарэлую хату, а таксама далучыліся сям'ёй.

– Людзі сабралі практычна дзве тысячы рублёў, і дом ужо купілі. Ён знаходзіцца недалёка ад мяне, будзем суседзямі, – сказаў Станіслаў.

Дачка 90-гадовай жанчыны, якая хутка зноў будзе жыць у Будславе, ужо рыхтуецца да працы па доме: унутры трэба зрабіць касметычны рамонт.

– Думалі купіць дом бліжэй да Мінска, але ж яна пражыла ў Будславе столькі год. Разумееце, тут яна ходзіць на могілкі, тут у яе ўсе ляжаць, і ў касцёл. Яна прывязаная да гэтага месца.

**Настасся УТКІНА.**

# Не дазволіць сабе каханне нават у сне

## Што ўбачаць на прэм’еры оперы ў Маладзечне

**Рамантычную оперу «Сон» паставяць у Маладзечанскім музычным каледжы імя Агінскага.**

Прэм’еру прызначылі на 19 гадзін 6 сакавіка. У гонар Міжнароднага жаночага дня артысты робяць падарунак гораду – уваход для ўсіх бясплатны. Але каб утульна размясціць усіх гледачоў, просяць загадзя рабіць бронь па нумары **(8-029) 606-25-68**.

### Опера без італьянцаў немагчымая

«Сон» – другая опера, якую ў Маладзечне ставіць італьянскі маэстра **Паола дэ Напалі**. Два гады таму пад кіраўніцтвам італьянца паставілі оперу «Служанка-гаспадыня». Твор двойчы паказалі ў Беларусі і двойчы ў Італіі. Вырашылі, што паспяховую працу варта працягваць і ствараць новыя праекты.

Міжнароднае творчае супрацоўніцтва ўдалося дзякуючы знаёмствам і добраму паразуменню паміж удзельнікамі праекта. Маладзечанец **Андрэй Мікульчык** займаецца з Паола дэ Напалі некалькі год, і ў выніку калегі вырашылі рэалізаваць смелы праект. Пасля першай удалай спробы стала зразумела, што справу варта працягваць. **Сюзана Ерабкова** з Чэхіі выступала і ў «Служанцы-гаспадыні», і працягнула працу над новым праектам.

– Паставіць оперу не так і проста, – тлумачыць Мікульчык. – У працэсе абавязкова павінны быць задзейнічаны італьянцы. Немагчыма адпрацаваць усе дэталі без тлумачэння носьбіта мовы і культуры. Нам пашанцавала, маэстра карэктуе нашу дыкцыю, шліфуе акцёрскі складнік, трымае ўвесь працэс.

### Як абралі п’есу

Твор з’яўляецца свабоднай трактоўкай оперы «Дзанэтта». З-за таго, што сюжэт арыгінала мае крыху сюррэалістычныя ноткі, вырашылі зрабіць яго больш зразумелым.

У оперы распавядаюць гісторыю куртызанкі Сільвіі.

> **Нягледзячы на тое, што жанчына абрала няправільны шлях, яна застаецца звычайным чалавекам са сваімі пачуццямі і перажываннямі.**

Аднойчы яна сустракае наіўнага хлопца Дзанэтта, да якога ў жанчыны прабуджаецца каханне. Хлопец нават не разумее яе пачуццяў, а Сільвія лічыць, што не вартая чыстага пачуцця нават у сне.

Опера будзе на італьянскай мове, але пры гэтым цалкам зразумелай.

– Тут вельмі прыгожая музыка, якая лепш за ўсё астатняе перадае сутнасць пачуццяў. У оперы будуць смешныя моманты, і крыху суму. Думаю, яна будзе асабліва цікавая дамам, таму што ў творы шмат увагі надаецца эмоцыям жанчыны.

### Оперу ўбачаць не толькі маладзечанцы

Музыканты плануюць пасля паказаў у Маладзечне завезці твор у Італію, магчыма, оперу паставяць і ў Балгарыі.

> **– Мы робім оперу ў правільным італьянскім стылі, з карэктнай дыкцыяй, – тлумачыць маэстра. – Італьянцы гэта адчуваюць, таму рады нас сустракаць.**

Замежныя госці не першы раз у Маладзечне. Яны распавялі пра тое, чым запомнілася Беларусь.

– Крыху падобная на Чэхію ў ранейшыя гады, – распавядае Сюзана. – Падабаецца мясцовая ежа – пельмені, глазураваныя маладзечанскія сыркі. Выдатна, што можна папрактыкавацца ў рускай мове.

Маэстра Паола дэ Напалі падзяліўся сваімі думкамі:

– У першую чаргу Маладзечна важнае тым, што тут у мяне шмат сяброў – у кіраўніцтве музычнага каледжа, драматычнага тэатра.



Афіша забяспечана Андрэем МІКУЛЬЧЫКАМ.

Я адчуваю, што яны вераць у нашы праекты і многім дапамагаюць. Немагчыма паверыць, што можа быць так чыста, як у вас у Беларусі. Падабаюцца і мясцовыя прадукты – сыр, мяса, малочныя вырабы.

### Італьянскае свята

Пасля оперы гледачоў чакае канцэрт выступоўцаў з розных краін. Яны будуць выконваць арыі, дуэты, песні. Наведнікаў чакае свята італьянскай музыкі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

---

# Творы паэтаў рэгіёна ўвайшлі ў зборнік, што выходзіць у Санкт-Пецярбургу

МЯДЗЕЛ
МАЛАДЗЕЧНА
ВАЛОЖЫН

**Хутка ў Расіі выйдзе зборнік паэзіі «Пяюць пераспелыя травы». Кніга выходзіць па ініцыятыве паэта, перакладчыка і мастацтвазнаўцы Глеба Пудава.**

У кнізе – вершы 18 беларускіх паэтаў у перакладзе Глеба на рускую мову. У дадатку – вершы Глеба ў перакладзе нашых паэтаў на беларускую мову.

У кнізе прадстаўленыя творцы з нашага рэгіёна – **Мікола Шабовіч**, **Віктар Шніп** і жыхарка Маладзечна **Марыя Шэбанец**. У зборніку таксама ёсць артыкул Глеба пра творчасць Марыі.

### Марыя Шэбанец: Было цікава пазнаёміцца з піцерскім мастацтвазнаўцам

З Глебам Пудавым маладзечанка Марыя Шэбанец супрацоўнічае не першы год. Летась яны выдалі агульную кнігу «Рэха».

– Менавіта пераклады і былі падставай для нашага з Глебам знаёмства. Ён набыў маю кніжку «Таямніца», адшукаў мяне на «Фэйсбуку» і запытаў дазволу на пераклад вершаў. А потым закруцілася – і вось ужо мы дапамагаем адзін аднаму з вычыткай, пішам рэцэнзіі ды прадмовы, – расказала Марыя карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты».

Спачатку выйшла агульная кніга паэзіі, а пераклады чакалі свайго часу, кажа Марыя. Глеб пісаў іх паступова, паказваў аўтарцы. Атрыманае абмяркоўвалі, крыху спрачаліся. Так і склалася падборка, што ўвайшла ў фінальны рукапіс і нарэшце рухалася да друку.

### Па-беларуску – больш мякка і сакавіта

Паэтка прызнаецца, што ёй цікава было пазнаёміцца з піцерскім мастацтвазнаўцам:

– А як яшчэ пазнаёміцца з творчым чалавекам, калі не праз яго творчасць? Вось і ўзялася перакладаць у адказ – маўляў, ведай нашых! Пачытала вершы – і за справу. Нават у галаву не прыходзіла, што Глеб і іх прыстроіць у кніжку, проста пафарсіць хацелася.

Марыі вельмі падабаюцца вершы рускіх паэтаў у перакладзе на беларускую мову:

> **– І не толькі таму, што сама перакладаю, хоць і смяюся з гэтага штораз. Проста некаторыя вершы па-беларуску пачынаюць гучаць крышачку іначай – больш мякка, больш сакавіта, больш смачна.**

Узаемныя пераклады, на думку Марыі, патрэбныя абедзвюм літаратурам. Яны праз гэта ўзбагачаюцца новымі імёнамі, новымі вершамі.

### Глеб Пудаў: у Беларусі з’явіўся цікавы і самабытны паэт

А што думае піцерскі мастацтвазнаўца пра творчасць паэткі з Маладзечна.

– Творы Марыі сведчаць пра тое, што ў Беларусі з’явіўся цікавы і самабытны паэт, – перакананы Глеб. – Найбольш яскрава асаблівасці яе паэзіі выказаныя ў паэме «Цэнтр сусвету». Сюжэт быццам бы просты – летняе наведванне бабулі – вясковае жыццё – вяртанне ў горад – шэрыя будні і смерць блізкага чалавека. Але жыццё тут паказанае ва ўсёй шматграннасці і паўнаце.

У беларускай літаратуры шмат твораў пра прыроду і працу людзей у вёсцы.

> **Аднак не кожны, на думку Глеба, можа параўнацца з творамі Марыі Шэбанец сваёй пранікнёнасцю і чысцінёй.**

Па словах Глеба, ён мае і далейшыя планы на супрацоўніцтва з Марыяй. Але расказваць пра іх не хочацца, бо творчасць – працэс непрадказальны, падсумаваў Глеб.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Смаргонскі лёгкаатлет перамог на міжнародным юніёрскім матчы

Смаргонскі лёгкаатлет **Аляксей Дудзінскі** выступаў па-за конкурсам у скачках у даўжыню на міжнародным матчы U20, які праходзіў у Мінску 26-27 лютага.

**У першай спробе ў сектары для скачка ў даўжыню Аляксей заступіў. У двух з іх ён скокнуў на 7 м 32 см. У Аляксея было шэсць спробаў.**

Бліжэй за ўсё да смаргонскага спартсмена аказаўся іспанец **Белтран Карлас**, які заняў другое месца. Замыкае тройку прызёраў **Эмрэ Гумус**, які абараняў гонар Турцыі.

Як піша Беларуская федэрацыя лёгкай атлетыкі, Аляксей Дудзінскі стаў адным з самых яркіх адкрыццяў турніру.

– Скакаць сёння мне не вельмі добра, яшчэ не да канца аднавіўся пасля чэмпіянату, дзе выкладваўся на максімум. Але дзякуючы падтрымцы заўзятараў усё атрымалася, і я стаў чэмпіёнам. Таксама хачу сказаць дзякуй маім трэнерам, бацькам і сябрам за падтрымку, – падзяліўся Дудзінскі.

На чэмпіянаце Беларусі па лёгкай атлетыцы, які праходзіў у Магілёве ад 11 да 12 лютага, Аляксей Дудзінскі заваяваў сярэбраны медаль у скачках у даўжыню. Смаргонец паказаў вынік 7 м 25 см. Ад першага месца тады яго аддзяляла ўсяго 5 см.

Дудзінскі – выхаванец Смаргонскай ДЮСШ. Яго трэніруе **Дзмітры Жук**.

**Настасся УТКІНА.**

## Расійскі форвард папоўніў ФК «Смаргонь»

22-гадовы форвард з Расіі **Алан Містулаў** падпісаў кантракт са «Смаргонню», якая будзе выступаць у другой лізе. Аб гэтым паведамляе «Прессбол» са спасылкай на football.by.

Апошнім месцам працы футбаліста быў «Хімік-Арсенал» (Тула, ПФЛ). У кар’еры Містулава таксама былі «Разань» і «Спартак-Джанкой».

Да «Смаргоні» Містулаў быў на праглядзе ў гродзенскім «Нёмане», але не задаволіў трэнерскі штаб прадстаўніка вышэйшай лігі.

**Паводле pressball.by.**




Фота прэс-службы «Дынама-Маладзечна».

Трэнер «Дынама» Дзмітры Краўчанка абяцаў прывезці ў Маладзечна з Гомеля дзве перамогі.

# «Дынама» гуляе супраць «Гомеля» ў плэй-оф Экстралігі

**У беларускай Экстралізе 27 лютага пачалася стадыя плэй-оф, а маладзечанскія дынамаўцы ў першым матчы сустрэліся з «Гомелем» на дамашнім лёдзе.**

### У першай гульні маладзечанцы перамаглі

Маладзечанскую каманду перад плэй-оф папоўнілі хакеісты з мінскага «Дынама» **Міхаіл Карнавухаў**, **Мікіта Талапіла**, **Дзмітры Дзярабін**, **Ігар Мартынаў**, **Павел Дзянісаў**, **Вячаслаў Грэцкі**.

У першым перыядзе падапечныя **Дзмітрыя Краўчанкі** выканалі амаль у чатыры разы больш кідкоў, чым сапернікі, але закінулі толькі аднойчы. Адзначыўся **Павел Баярчук**. У другім перыядзе гулец «Гомеля» **Бовін** рэалізаваў момант каля варотаў маладзечанцаў і зраўняў лік. А потым увогуле выйшлі наперад – шайбу забіў **Какшараў**.

**Неўзабаве дубль аформіў Баярчук. Наступную шайбу забіў Грэцкі, які сёлета пабываў на матчы усіх зорак КХЛ, за чатыры хвіліны да сірэны.**

Па версіі федэрацыі хакея Беларусі, Павел Баярчук стаў першай зоркай дня.

Галоўны трэнер «Гомеля» **Сяргей Стась** сказаў у пасляматчавым каментары, што ў першым матчы плэй-оф яго каманда пачала нясмела, не ўвайшла ў гульню і прапусціла неабавязковыя галы.

Галоўны трэнер «Дынама-Маладзечна» Дзмітры Краўчанка сказаў, што можна ацаніць гульню па першым перыядзе:

**– Наколькі ўдала склаўся першы перыяд, настолькі няўдала склалася ўся астатняя гульня. Мы рады перамозе, складанай, з памылкамі, але перамозе.**

### Паражэнне дома ў другой гульні

Другую гульню серыі маладзечанцы правялі таксама на дамашнім лёдзе на наступны дзень, 28 лютага.

Маладзечанцам не дапамагло ўзмацненне, якое прыбыла з мінскага «Дынама».

**Калі ў першай гульні Грэцкі вывеў маладзечанскую каманду наперад за некалькі хвілін да канца трэцяга перыяду, то ў другой гульні два клубы згулялі ў авертайме.**

Трэба адзначыць, што маладзечанцы выдатна гуляюць на слабасці «Гомельскіх рысяў» – гульня ў меншасці.

**«Гомель» прапусціў чатыры шайбы за дзве гульні**

Гомельскія хакеісты зраўнялі лік у серыі – 1:1. Галоўны трэнер «Дынама» Дзмітры Краўчанка паабяцаў вярнуцца ў Маладзечна з дзвюма перамогамі.

**У Гомелі маладзечанцы вырвалі дзве перамогі.**

2 сакавіка падапечныя Дзмітрыя Краўчанкі перамаглі з лікам 4:1. А на наступны дзень выйгралі ў гамяльчан у дадатковы час 3:2.

5 сакавіка ў 20:30 Дынама» згуляе з «Гомелем» у Маладзечне.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Беларускія біятланісты занялі першае месца на чэмпіянаце Еўропы

Беларускія спартсмены занялі першае месца ў медальным заліку на чэмпіянаце Еўропы па біятлоне ў Раўбічах.

На вышэйшую прыступку п’едэстала ўзнялася біятланістка зборнай Беларусі **Алена Кручынкіна**, якая выйграла гонку пераследу. Таксама на рахунку яе партнёра па камандзе **Сяргея Бачарнікава** ўзнагароды вышэйшай пробы ў суперспрынце і пасьюце. Бронзавы медаль у скарбонку беларускай каманды прынесла **Ірына Крыўко** ў спрынце.

Удзел у чэмпіянаце Еўропы-2020 па біятлоне прыняло каля 270 спартсменаў у складзе 35 камандаў.

**Паводле belta.by.**




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Сукупнасць слоў мовы ці дыялекту.
3. Прыродная або штучная чорная смалістая маса, якая выкарыстоўваецца ў некаторых галінах прамысловасці і якой пакрываюць дарогі, тратуары.
4. Кінатэатр у Маладзечне.
5. Пра пачуццё ніякаватасці, збянтэжанасці, сораму.
8. Спецыяльная дошка або кніга для ўліку прыходу на работу і адыходу з работы рабочых і служачых.
9. Месца, дзе язычнікі пакланяліся багам і прыносілі ім ахвяры.
12. Які мае невялікую працягласць знізу ўверх; малы па вышыні.
13. Смутак, маркота, журба.
15. Мнагаместны пасажырскі аўтамабіль.
17. Населены пункт у Вілейскім раёне, дзе нарадзіўся мастак Леў Альпяровіч.
18. У старажытнагрэчаскай міфалогіі – напітак багоў, які даваў ім бессмяротнасць і вечную маладосць.
22. У гэтай краіне пэўны час існаваў лозунг «Тры гады ўпартай працы – дзесяць тысяч год шчасця».
23. Каб вызначыць, ці падыходзіць яна, персанажы фантастычнага рамана «Аэліта» бяруць з сабой мыш.
25. Парны бальны танец свабоднай кампазіцыі з энергічным, выразным рытмам, а таксама музыка да гэтага танца.
27. Нізіна.
28. Пэўны від жывёл, раслін ці прадмет нежывой прыроды, што служыць аб'ектам рэлігійнага пакланення.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Адна з самых буйных рэк, што ўпадаюць у Балтыйскае мора.
6. Бясколерная вадкасць у целе чалавека і пазваночных жывёл, якая абмывае ўсе тканкі і клеткі арганізма.
7. Адчайны, немы крык як праяўленне жаху, як кліч на дапамогу.
10. Пункт погляду, з якога разглядаюцца прадметы, паняцце з'явы.
11. Стэнлі Кубрык уважліва ставіўся да рэкламы сваіх фільмаў. Яго памочнік пастаянна наведваў іх, каб праверыць, ці ёсць там «Завадны апельсін», «Ззянне» і іншыя.
14. Амерыканскі вынаходнік, які спачатку падпрацоўваў рамонтам і продажам пёравых ручак. Пастаянна сутыкаўся з іх ненадзейнасцю і спрабаваў зрабіць такую ручку, каб не выцякала чарніла. Атрымаў патэнт і пачаў вырабляць ручкі, а пасля яго завод стаў найбуйнейшым вытворцам ручак у свеце.
16. Краіна, якой належыць самы буйны востраў Балтыйскага мора Готланд.
17. Кодавая назва аперацыі ў час Другой сусветнай вайны. Яе мэта – вывесці са строю вялікія ўчасткі чыгункі, каб сарваць воінскія перавозкі праціўніка.
19. Адкрыты прылавак для гандлю на вуліцы.
20. Самыя рэдкія алмазы – блакітныя. На 10 тысяч здабытых алмазаў прыходзяцца адзін-два блакітныя. Атамы якога элемента даюць такое адценне?
21. Парадкавы лік прадмета ў радзе яму падобных.
24. Рух прадмета па паверхні другога прадмета.
26. Адсутнасць выстралу пры спуску курка ў выніку няспраўнасці зброі або патрона.

## Адказы на крыжаванку з №9

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Калыскі. 5. Імпарт. 6. Вітамін. 7. Савецкая. 8. Дабрабыт. 11. Дрэва. 14. Траса. 15. Шахматы. 17. Даклад. 18. Канада. 20. Ідал. 23. Чарніла. 25. Асірыя. 26. Дзіда.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Дарога. 2. Давос. 4. Суфізм. 7. Стандартызацыя. 9. Тэрмас. 10. Жменя. 11. Дата. 12. Мафія. 13. Учкудук. 14. Табло. 16. Тайнік. 19. Мара. 21. Талерка. 22. Дэталь. 24. Ілюзія.



● ГАРАСКОП НА 6-12 САКАВІКА

## Гараскоп жаночай прыгажосці

**АВЕН.** У знешнім выглядзе для вас важна прадэманстраваць энергію і сілу. Вобраз упэўненай жанчыны, якая ідзе да мэты – той, у якім будзеце арганічнай. Ідэальна будзе пасаваць макіяж з гладкім тонам, густымі чорнымі вейкамі і чырвонай памадай.

**ЦЯЛЕЦ.** Найбольш унутраны стан раскрые натуральны макіяж з прыроднымі колерамі. Вельмі яркія колеры наўрад ці будуць камфортнымі. Таму паспрабуйце вобраз у бэжавых, шэрых, зялёных і ружовых адценнях.

**БЛІЗНЯТЫ.** Для вашай паветранай натуры добра будзе пасаваць кантрасны макіяж – падкрэсленыя бровы, вылучаныя скулы, яркія вочы. Паспрабуйце аддаць перавагу матавым сродкам – памадам, ценям, румянам.

**РАК.** У гармоніі з зоркамі будзе макіяж, які абрамляе ззяннем вочы. Выдатна будзе пасаваць дымны макіяж з цёмнымі ценямі. Хайлайтар дапаможа дадаць бляску скуры. Часам можна ўпісаць яркія памады ў такі загадкавы вобраз.

**ЛЕЎ.** Вашу сілу і паспяховасць ідэальна падкрэсліць чырвоная памада. Калі падабраць правільнае адценне, яна ўпрыгожыць жанчыну любога ўзросту. Залатыя адценні таксама вас толькі ўпрыгожаць.

**ДЗЕВА.** Тонкі густ заўсёды будзе з вамі, у тым ліку і ў макіяжы. Вашу прыгажосць падкрэсліць «макіяж без макіяжу» – нюдавыя адценні, празрысты бляск для вуснаў, лёгкі румянец, карычневыя вейкі і акуратныя бровы.

**ШАЛІ.** Вас добра дапоўніць акцэнт на вуснах. Не бойцеся яркіх колераў, толькі добра падбярыце да твару. Выраўнены тон, падкрэсленыя вусны, крыху тушы – і вы ў вобразе, які вам раяць зоркі.

**СКАРПІЁН.** Контуры і лініі – тое, што лепш за іншае падкрэсліць вашу прыгажосць. Падкрэсліце скулы бронзарам, не пашкадуйце падводкі і тушы – і вы гатовыя заваёўваць свет.

**СТРАЛЕЦ.** Зззяць як толькі можна – так вы не толькі падкрэсліце прыгажосць, але і атрымаеце схільнасць зорак. Карычневыя і залатыя адценні падкрэсляць вашу энергію. Некаторым прадстаўніцам знака варта прыглядзецца да фіялетавых колераў, каб раскрыць усю прыгажосць.

**КАЗЯРОГ.** Падбірайце дарагія складаныя колеры. Шэра-зялёна-сіні, карычнева-барвова-залаты – у такіх тонах вы будзеце раскрывацца і адчуваць сябе багіняй.

**ВАДАЛЕЙ.** Вам дастаткова чатырох сродкаў для выдатнага вобразу: кансілер для роўнага тону, туш і двое ценяў. Цёмны для броваў і вугалка вока, ружовы або персікавы для шчок, века і вуснаў. Важна, каб усё выглядала акуратна і ненавязліва.

**РЫБЫ.** Выдатна ваш вобраз падкрэсліць дымчаты макіяж вачэй у сініх або фіялетавых колерах. Для вуснаў лепш абіраць няяркія колеры прыродных адценняў.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 3 | 6 | 2 | | | 7 |
| | | | 7 | 1 | | | 6 | 4 |
| 6 | 5 | | | | 4 | | | 3 |
| | | 5 | | 9 | | 1 | 7 | |
| | | 8 | 1 | 5 | | | 9 | |
| | | | | | | 4 | | 5 |
| 2 | | | | 3 | 9 | | | |
| | | | | | 7 | | 2 | 9 |
| | | | 8 | | | | | 6 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



**Рэгіянальная газета. Rh.by**



● #РГ25

## Алеся Каролік, педагог-арганізатар Маладзечанскага музкаледжа імя Агінскага:

# «Чвэрць стагоддзя рэгіён чытае газету на беларускай мове»

Шчырыя віншавальныя словы дасылаю рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» з нагоды 25-годдзя выдання!

25 год – гэта салідны ўзрост. А разуменне таго, што ўжо чвэрць стагоддзя жыхары Маладзечаншчыны і ўсяго рэгіёна маюць перыёдыку на беларускай мове, вельмі радуе!

Хочацца пажадаць рэдакцыі і надалей цешыць нас сваімі артыкуламі і, канешне, падзякаваць за супрацоўніцтва, запрашэнні на мерапрыемствы і за публікацыю ўласных матэрыялаў.



Фота з архіва «Рэгіянальнай газеты».

**Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.**

**А таксама пасціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!**



## Чытайце праз тыдзень:

- **У святле апошніх падзей з каранавірусам крыху сціхлі размовы пра інтэграцыю Беларусі і Расіі. І ўсё ж цікава, што думаюць на гэты конт беларусы, расіяне і эксперты.**

## 7 сакавіка, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 2-3 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -28,5°С у 1964 годзе
Максімальная тэмпература +9,7°С у 1999 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,3 мм у 2017 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці трэба называць беларускія школы імёнамі знакамітых выпускнікоў?



**Валянціна Тышкоўская, супрацоўнік сацыяльнай службы, Вілейка:**

– Не трэба называць школы імёнамі знакамітых вучняў, таму што іх можа быць шмат. Адным імем назавеш, а астатнія як? Можна зрабіць памятны альбом або дошку, куды будуць упісваць знакамітасцяў.



**Сяргей Буханаў, будаўнік, Маладзечна:**

– Можа, і варта, але калі гэта будзе адбывацца, не закранаючы бюджэту гарадоў. А то ў нас як адбываецца: з бюджэту горада сыходзяць не маленькія сродкі. Не настолькі мы багатыя. А знакамітых вучняў у адной школе можа быць шмат.



**Леанарда Казімірава, пенсіянерка, Ашмяны:**

– Школа можа насіць імя выпускніка, які атрымаўшы вядомасць, паспяховасць, апякуецца роднай школай. Школа можа насіць таксама імя дырэктара ці лепшага настаўніка, які дапамог запалам, ведамі, майстэрствам вызначыць дарогу ў будучыню. У кожным выпадку гэта павінна быць па-рознаму.



**Людміла Чункевіч, выкладчыца, Маладзечна:**

– Гэта было б цікава. Але не магу прыдумаць, у гонар каго я назвала б сваю школу, таму цяжкае пытанне.



**Алена Старадуб, бібліятэкар, Вілейка:**

– Як кажуць, «ведай нашых». Мы мала ведаем пра дасягненні выпускнікоў нашых школ, а многія шмат чаго дамагліся. Той жа Іван Літвіновіч, які малайчына. Думаю, цяпер шмат хто будзе за ім цягнуцца.



**Наталля Шушкевіч, швачка, Маладзечна:**

– Мне больш падабаецца, калі школа носіць імя беларускага пісьменніка ці паэта, а не выпускніка. Напрыклад, школа №1 у Маладзечне імя Янкі Купалы ці педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка.



**Вольга Несцяровіч, майстар на мясакамбінаце, Маладзечна:**

– Чаму б і не? Напрыклад, я вучылася ў гімназіі №7, яна носіць імя Корсака.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№10 (1296) 6.03.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 387. Падпісана ў друк у 9.00 5.03.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.